200

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 32 (2382) 11 жніўня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 200 рублёў.

МАСТАК-ЮВЕЛІР Мікола КУЗЬМІЧ РАСПАЧАЎ ПРАЦУ ПА СТВАРЭННЮ КРЫЖА ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

## ВОБРАЗ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯТЫНІ ВЯРТАЕЦЦА НА БЕЛАРУСЬ



Брэсцкі мастак Мікола Кузьміч працуе над стварэннем Крыжа Еўфрасінні Полацкай вось ужо 18 месяцаў. Гэтая праца была распачата па ініцыятыве згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Яшчэ на Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа ў 1992 годзе была ўнесена прапанова аб аднаўленні Крыжа Еўфрасінні Полацкай. Меркавалася зрабіць яго да Першага з'езда беларусаў свету. Аднак папярэдняя праца паказала, што мастаку спатрэбіцца значна больш часу, чым гэта здавалася напачатку.

Старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач падкрэсліла на навукова-грамадскай радзе па аднаўленню Крыжа, якая прайшла ў ліпені, што Беларусь набыла гістарычны шанц адрадзіць сваю дзяржаўнасць. У такі момант зразумелы зварот да нацыянальнай святыні, якая асвячала гістарычны лёс беларусаў. Ганна Сурмач расцаніла працэс стварэння Крыжа па ўзору полацкай святыні як вяртанне вобраза Крыжа Еўфрасінні Полацкай на Беларусь.

З'ездам беларусаў блізкага замежжа і Першым з'ездам беларусаў свету гэтая ідэя была падтрымана. Пытанне фінансавання праекта было вырашана на радзе прадпрымальнікаў беларускай дыяспары, што праходзіла ў студзені 1993 года. Фінансаваць праект пагадзіліся прадпрымальнікі Анатоль Сілівончык з Сургута, Мікола Сулкоўскі з Навасібірска, Алесь Ядчанка з Львова і іншыя.

У студзені 1993 года была падпісана юрыдычная дамова паміж мастаком Міколам Кузьмічом і ЗБС "Бацькаўшчына", якое ўзяло на сябе абавязак забяспечваць мастака неабходнымі матэрыяламі. М. Кузьміч адразу ж распачаў падрыхтоўчую працу.

"Бацькаўшчына" звярнулася да Мітрапаліта Філарэта з просьбай аб духоўным спрыянні аднаўленню Крыжа. Уладыка блаславіў распачатую мастаком працу, асвяціў майстэрню М. Кузьміча ў Брэсце. Летась адбылася сумесная паездка Мітрапаліта Філарэта і рабочай групы па аднаўленню Крыжа ў Полацк у царкву Еўфрасінні Полацкай (якая патрабуе рэстаўрацыі, як і манастыр), дзе мастак атрымаў блаславенне Мітрапаліта Філарэта на працу.

Быў створаны навукова-грамадскі савет, каб аказваць мастаку навукова-метадычную дапамогу ў пошукавай працы, навуковым кіраўніком якой прызначаны доктар гістарычных навук Георгій Штыхаў. Да гэтай працы далучыліся і іншыя навуковыя супрацоўнікі.

Мікола Кузьміч дасканала вывучыў усе матэрыялы, у якіх засталіся звесткі пра Крыж. Мастак пабываў у Аружэйнай палаце ў Маскве, браў кансультацыі ў шматлікіх спецыялістаў. Мітрапаліт Філарэт сумесна з "Бацькаўшчынай" правёў у лістападзе нараду з запрашэннем вучоных акадэміі навук Расіі Т. Макаравай і Л. Аляксеява, дзе абмяркоўваліся пытанні стварэння Крыжа па ўзору Крыжа Еўфрасінні Полацкай. Мастак пабываў у Мігуліна, які быў калісьці дырэктарам Магілёўскага музея і адным з апошніх бачыў Крыж святой Еўфрасінні Полацкай. З Іерусаліма было прывезена кіпарысавае дрэва для стварэння Крыжа.

Апошнія фотаздымкі Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, па словах мастака Міколы Кузьміча, паказваюць, што ён разбураны прыкладна напалову. У ім шмат зменаў у параўнанні з арыгіналам. Таму цяжка меркаваць, у якім стане знаходзіцца Крыж сёння. Мікола Кузьміч сутыкнуўся не толькі з праблемай адраджэння згубленай ва ўсім свеце тэхнікі перагародачных эмаляў, але і з маральнымі пытаннямі. Трэба было вырашыць: рабіць сваю працу па ўзору Крыжа, які трымала ў руках святая Еўфрасіння (пра яго, дарэчы, не так шмат дакладных звестак), ці таго ж Крыжа, але напалову разбуранага. Мастак будзе рабіць спробу наблізіцца да першапачатковага выгляду Крыжа.

На навукова-грамадскай радзе пры ЗБС "Бацькаўшчына" па аднаўленню Крыжа Еўфрасінні Полацкай было шмат спрэчак наконт таго, ці не будзе перашкаджаць стварэнне Крыжа па ўзору страчанага Крыжа Еўфрасінні Полацкай пошукам апошняга. Аднак на радзе было вырашана скіраваць працу і на пошукі беларускай святыні, падключыць да гэтай справы царкву, Міністэрства замежных спраў, КДБ.

На радзе былі зацверджаны вынікі падрыхтоўчай працы мастака, эскіз Крыжа. У хуткім часе Мікола Кузьміч прыступіць да ўвасаблення сваіх планаў у матэрыяле. Уладыка Філарэт запрасіў мастака наведаць з ім Іерусалім, дзе яшчэ раз асвецяць кіпарысавае дрэва, з якога мастак будзе рабіць Крыж.

Алена СПАСЮК.

ДЫЯЛОГІ З ЛІДЭРАМІ ПАРТЫЙ

## ПАЛІТЫКА – КАМПРАМІС, АЛЕ НЕ ЗГОДНІЦТВА

**Дзіўна, але ёмістае, увогуле неблагое беларускае слова "згода" на працягу зусім невялікага адрэзку часу паспела ўжо некалькі разоў змяніць сваю якасную афарбоўку. Гэтае невялікае слоўца было вельмі даспадобы нядаўняму спікеру беларускага парламента Станіславу Шушкевічу, у палітычным лексіконе якога выразна дамінавала і спачатку імпанавала грамадскай думцы. Але хутка стала зразумелым, што, акрамя "згоды" славеснай, павінна быць і згода ў справах, чаго, на жаль, тады не назіралася. І вось ужо тая ж грамадская думка паціху стала мяняць свае адносіны і да Шушкевіча, і да яго любімага слова, якое ўрэшце само па сабе ні ў чым і не вінаватае. Са "згоды" пачалі пасміхацца, потым кпіць, а далей нават абвінавачваць яе прыхільнікаў ці не ва ўсіх смяротных грахах.**

**Тым не менш "згода" не сышла з палітычнай арэны і сёння нават мае шанц умацавацца на ёй. У значнай ступені дзякуючы таму, што зараз грамадскі і палітычны імідж гэтаму слову стварае чалавек, чыё імя адносіцца да аднаго з адкрыццяў апошніх двух-трох год.**

**Знаёмцеся, сённяшні наш субяседнік -- дэпутат беларускага парламента, мэр горада Маладзечна, старшыня Партыі народнай згоды, доктар тэхнічных навук Генадзь КАРПЕНКА.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ВЫСТАВА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ГІСТОРЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СІМВОЛІКІ

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ПАД БЕЛЫМ СЦЯГАМ?

З'яўленне такой выставы ў час, калі ў Беларусі пастаянна зневажаюць нацыянальную сімволіку (адзін з прыкладаў таму -- святкаванне ўладамі Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пад чырвонымі сцягамі неіснуючай дзяржавы), падалося смелым крокам супрацоўнікаў Музея гісторыі і культуры. Крок гэты здаецца даволі ўпэўненым. Хоць экспанатаў на выставе няшмат (цікава, больш не было, ці больш не дазволілі паказаць?), аднак яны вызначаюцца галоўным -- доказнасцю і інфарматыўнасцю.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПЕРШЫ ВІЗІТ У МАСКВУ*

"Першы візіт -- ёсць першы візіт, гэта перш за ўсё знаёмства", -- заявіў кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын, каменціруючы вынікі праведзенай 3 жніўня рабочай сустрэчы прэзідэнтаў Расіі і Беларусі. Ён адзначыў, што ў час сустрэчы і не прадугледжвалася падпісанне якіх-небудзь дакументаў, таму не маюць рацыі тыя, хто толькі па адной гэтай прычыне лічаць яе не зусім удалай.

-- Тыя праблемы, якія мы ставілі, знайшлі разуменне і падтрымку, -- паведаміў кіраўнік адміністрацыі беларускага прэзідэнта. -- Узаемаразуменне паміж нашым прэзідэнтам і кіраўнікамі Расійскай Федэрацыі было поўным. Я думаю, што гэта адбылося таму, што ў Аляксандра Лукашэнкі ёсць глыбіня і веданне праблем, прыродная дыпламатыя. Менавіта гэта дало яму магчымасць удала правесці перагаворы. Па ўсіх 20 пытаннях прынята рашэнне, ні адно не пакінута без увагі.

Леанід Сініцын пацвердзіў, што ўжо восенню бягучага года чакаецца прыезд у Мінск прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына.



НА ЗДЫМКУ: сустрэча Прэзідэнта Беларусі А. ЛУКАШЭНКІ з Прэзідэнтам Расіі Б. ЕЛЬЦЫНЫМ.

*АФІЦЫЙНА*

## ГУТАРКА ПРЭЗІДЭНТА З ПАТРЫЯРШЫМ ЭКЗАРХАМ

Адбылася сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з Яго Высокапраасвяшчэнствам Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі.

У гутарцы былі ўзняты праблемы духоўна-маральнага адраджэння народа, што з'яўляецца асновай і стымулам эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу. Былі закрануты пытанні маральнай арыентацыі асобы, сродкаў масавай інфармацыі на фарміраванне маральна здаровага грамадства.

Разгледжана магчымасць прадастаўлення памяшканняў у сярэдніх вучэбных установах для заняткаў у пазаўрочны час у нядзельных школах. Абмеркаваны шляхі пастырскай апекі царквы над людзьмі, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі.

Мітрапаліт Філарэт паставіў перад прэзідэнтам пытанне аб вяртанні Беларускаму экзархату памяшканняў і іншай царкоўнай маёмасці, рэквізаванай пасля 1918 года.

Кіраўніцтва Беларускай праваслаўнай царквы выказвае ўдзячнасць прэзідэнту за тое разуменне, якое было праяўлена ім пры разглядзе такіх важных для лёсаў народа і царквы праблем.

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## АДМЕНЕНА ЛЬГОТА ДЛЯ ЧЫНОЎНІКАЎ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб прыпыненні дзеяння пастановы Савета Міністраў ад 18 ліпеня 1994 года за нумарам 548 аб прадастаўленні дзяржаўным служачым льготных крэдытаў на будаўніцтва і набыццё жылля.

Як паведамілі ў адміністрацыі прэзідэнта, падпісанне гэтага ўказа было абумоўлена асабістай пазіцыяй Аляксандра Лукашэнкі, выказанай ім яшчэ ў ходзе выбарчай кампаніі: служачыя дзяржаўнага апарата не могуць дазволіць сабе таго, чаго не мае народ.

*У ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ*

## БЕСПРАЦОЎЕ Ў ЛІЧБАХ

За другі квартал бягучага года колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах дзяржаўнай рэспубліканскай службы занятасці, павялічылася на 6 189 чалавек і дасягнула на 1 ліпеня 87 962. З іх 37 працэнтаў складаюць мужчыны, 63 -- жанчыны.

Па абласцях беспрацоўе "размеркавалася" наступным чынам: Мінская вобласць -- 16 825 чалавек, г. Мінск -- 10 381, Брэсцкая -- 14 848, Віцебская -- 12 241, Гомельская -- 11 876, Гродзенская -- 10 291, Магілёўская -- 11 502. Найбольш высокі ўзровень беспрацоўя сярод насельніцтва працаздольнага ўзросту назіраецца ў Мінскай вобласці (2,05 працэнта), найбольш нізкі -- у Гомельскай (1,4 працэнта) і ў горадзе Мінску (0,99 працэнта).

*ЛЕС ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ*

## АБВЕРГЛІ МАГАТЭ

Вучоныя Інстытута лесу Акадэміі навук Беларусі абверглі ранейшыя даследаванні калег з МАГАТЭ, іншых радыелагічных навуковых устаноў далёкага і блізкага замежжа ў галіне лясной гаспадаркі, якая падвергласа радыеактыўнаму забруджванню ў выніку чарнобыльскай катастрофы. На іх думку, экалагічнае становішча ў лясах Беларусі, Украіны і Расіі, пасыпаных ядзерным попелам, куды больш складанае і небяспечнае, чым прагназуюць замежныя калегі.

*ЭКАЛОГІЯ*

## НА СТАЖЫРОЎКУ Ў ГАЛАНДЫЮ

Упершыню маладыя вучоныя-эколагі -- муж і жонка Галіна і Вячаслаў Парфёнавы з Мінска -- стануць слухачамі спецыяльных Еўрапейскіх курсаў у Галандыі. На цэлы год яны адправяцца стажыравацца па пытаннях экалагічнага менеджменту. Гэта паездка стала магчымай толькі пасля таго, як у Беларусі, на кафедры экалогіі Політэхнічнай акадэміі адкрылася прадстаўніцтва вядомых у Еўропе курсаў. Абучэнне слухачоў фінансуецца ўрадам Галандыі. Каб трапіць у Галандыю, Парфёнавым давялося вытрымаць нямала экзаменаў, галоўныя з якіх -- бездакорнае валоданне англійскай мовай, прыкметныя дасягненні ў галіне аховы навакольнага асяроддзя.

*УРАЧЫСТАСЦІ Ў БРЭСЦЕ*



У Брэсце, які ў гэтыя дні адзначае 975-годдзе свайго існавання і 50-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прайшло вялікае свята горада. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел ветэраны вайны і працы, удзельнікі вызвалення Брэста, шматлікія госці з Расіі, Украіны, Малдовы, Казахстана, вядомыя артысты і ансамблі з Масквы, папулярныя беларускія калектывы і выканаўцы. Яны прынялі ўдзел у вялікім канцэрце для брэстаўчан і гасцей свята.

НА ЗДЫМКУ: урачыстасці ў Брэсцкай крэпасці-герої.

*ДЭМАГРАФІЯ*

## ТЭНДЭНЦЫЯ — НА ВЫМІРАННЕ

Паводле даных сацыяльна-гігіенічных даследаванняў Гомельскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, гадавы каэфіцыент нараджальнасці па вобласці знізіўся з 17,5 на 1000 чалавек насельніцтва ў 1984 годзе да 11,9 -- у 1993-м. За гэты ж перыяд паказчык агульнай смяротнасці вырас адпаведна з 10,24 да 12,97, гэта значыць упершыню за многія гады адзначана рэгрэсіўная тэндэнцыя: паказчык смяротнасці насельніцтва перавышае паказчык нараджальнасці. Тэндэнцыя да росту смяротнасці назіраецца ва ўсіх узроставых групах, акрамя дзіцячай.

*СЕМІНАР НА ВОСТРАВЕ*

## ЗЛЯЦЕЛІСЯ ШАПТУНЫ

На Міншчыне завяршыўся міжнародны семінар народных цаліцеляў, які праводзіўся на адным з астравоў возера Мядзель.

33 удзельнікі -- празарліўцы, народныя лекары -- з краін Прыбалтыкі, Беларусі, Расіі і Казахстана абмяняліся набытым вопытам па вылечванню хворых і нават правялі шэраг эксперыментаў. Галоўны арганізатар гэтага семінара Мікалай Озераў рыхтуецца ўзначаліць Цэнтр народнага лекарства, работы па стварэнню якога цяпер вядуцца ў Брэсце.

*УНІКАЛЬНАЯ ЗНАХОДКА*

## ВАСЬМІКУТНАЯ ПЯЧАТКА

У час археалагічных раскопак на тэрыторыі былога жаночага базыльянскага манастыра, які знаходзіцца ў гістарычнай частцы Мінска -- Верхнім горадзе, -- знойдзена металічная васьмікутная пячатка, што выдатна захавалася. На ёй адлюстраваны ініцыялы і герб уладальніка -- "Слепаброн". Спецыялісты датуюць яе канцом XVI -- пачаткам XVII стагоддзяў. Па ацэнках кіраўніка археалагічных даследаванняў Валянціна Собаля і гісторыка Алега Трусава, -- гэта унікальная знаходка падобнага тыпу, калі-небудзь выяўленая пры раскопках у Беларусі.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

РЫХТУЕЦЦА праект закона аб узнагародах, які мяркуецца вынесці на абмеркаванне сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Белаурсь. Прадугледжваецца, што вышэйшай узнагародай дзяржавы будзе званне "Герой Беларусі".

ВЯЧАСЛАЎ КУЗНЯЦОЎ, былы партыйны функцыянер, а цяперашні першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, абраны старшынёй палітычнага камітэта Сацыялістычнай партыі Беларусі (СПБ). На ўстаноўчым сходзе агалошаны яе мэты -- чалавек і яго дабрабыт, сацыяльная справядлівасць, ну і вядома ж, Саюз незалежных дзяржаў замест СССР.

САМАЯ нізкая мінімальная заработная плата ў дзяржавах Закаўказзя -- у Азербайджане -- 0,84 долара, у Арменіі -- 0,82 долара. Сярэднестатыстычны беларус атрымлівае штомесяц 3,63 долара. Самыя высокія заробкі ў Расіі, Узбекістане і Туркменістане, адпаведна -- 10,5, 11,77 і 15 долараў.

ПА 3--4 танкі ў дзень ліквідуюцца на 140-м танкарамонтным заводзе ў Барысаве. Ужо знішчаны 2 904 баявыя машыны з 3 605, лёс якіх вызначаны дагаворам аб скарачэнні звычайных узбраенняў у Еўропе. За ходам выканання дагавора ў Беларусі сочаць замежныя назіральнікі.

У КРЭСЛА рэктара Беларускай палітычнай акадэміі перасеў былы намеснік Старшыні Савета Міністраў ва ўрадзе В. Кебіча Міхаіл Дзямчук. Новы рэктар БПА мае вучоную ступень доктара фізіка-матэматычных навук, з'яўляецца членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі. М. Дзямчук -- лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

ТРОЕ дзетак, якія перанеслі аперацыі на шчытападобнай залозе, у суправаджэнні ўрача адправіліся адпачываць у адзін з дзіцячых лагераў штата Мічыган (ЗША), дзе праходзяць рэабілітацыю хворыя, што пакутуюць на анкалагічныя захворванні.

У лагеры ёсць сімвалічны манумент -- звон без языка з надпісам: "Гэты звон загучыць тады, калі дзеці на Зямлі перастануць хварэць на рак".

ДА ВЫХАДУ ў адстаўку з пасады Старшыні Савета Міністраў Вячаславам Кебічам падпісаны шэраг пастаноў аб прызначэннях у дыпламатычным корпусе Беларусі. Так, дарадцам-пасланнікам пасольства рэспублікі ў Злучаных Штатах Амерыкі прызначаны Ігар Шмыгаў. Генеральным консулам Беларусі ў Таронта (Канада) -- Алег Лапцёнак. Генеральным консулам Беларусі ў Даўгаўпілсе (Латвійская Рэспубліка) -- Іван Бондар. Усе яны да гэтага часу працавалі ў структуры Міністэрства замежных спраў рэспублікі.

Яшчэ дзве пастановы падпісаны віцэ-прэм'ерам Міхаілам Мясніковічам: ад абавязкаў гандлёвага прадстаўніка Беларусі ў Сацыялістычнай Рэспубліцы В'етнам у сувязі з пераходам на іншую працу вызвалены Аляксандр Патанцаў; на яго месца прызначаны Алег Чакункоў.

# ПАЛІТЫКА – КАМПРАМІС, АЛЕ НЕ ЗГОДНІЦТВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**-- Генадзь Дзмітрыевіч, на якіх жа асноўных прынцыпах грунтуецца праграма Партыі народнай згоды?**

-- Калі коратка, то атрымліваецца так: у эканоміцы -- шлях рынкавых рэформ; у палітыцы -- згода ўсяго грамадства на палітычныя змены без канфрантацыі; што тычыцца дзяржаўнасці, то тут, безумоўна, -- беларуская дзяржава з адпаведнымі інстытутамі і атрыбутамі.

**-- Тэарэтычна ўсеабдымная формула згоды мяркуе кампраміс ці прымірэнне ўсіх з усімі? Што наогул згода ў вашым разуменні?**

-- Наогул, уся палітыка -- у значнай ступені кампраміс, але не згодніцтва, не адыход ад выбранага курсу палітычных і эканамічных рэформ, для паспяховага правядзення якіх мы шукалі і шукаем згоду. Але я хачу сказаць галоўнае: мы наогул супраць рэвалюцыйных метадаў, метадаў натоўпу, які бяздумна змятае ўсё на сваім шляху. На жаль, сённяшняя сітуацыя часам больш падобная на рэвалюцыйную.

**-- Хто ў гэтым вінаваты? Кіраўніцтва? Мы ўсе? Для многіх з нас на пэўным этапе робяцца больш прывабнымі рэвалюцыі, а не эвалюцыі...**

-- Разумееце, мы -- такія, якімі нас выхоўвала на працягу многіх дзесяцігоддзяў сістэма. А гэтую сістэму і яе палітыку стварала і ажыццяўляла кіраўніцтва, і калі палітыка была пазбаўлена ўсялякіх рэформ, то і свядомасць людзей фарміравалася ў адпаведнай плыні.

Наогул палітычнай культуры нам усім яшчэ вучыцца і вучыцца. І сёння гэта ўжо разумеюць многія. Вось і нашы парламентарыі: пaглядзіце, як мяняецца ў залежнасці ад грамадска-палітычных перамен пазіцыя дэпутацкай большасці. Пасля прэзідэнцкай кампаніі многія з іх прыйшлі да высновы, што трэба ўсё ж такі вярнуцца да закону аб вылучэнні на выбарах партый, аб выбранні па партыйных спісах.

**-- Вы маеце на ўвазе наступныя парламенцкія выбары?**

-- Менавіта так. Прычым такія размовы вядуць дэпутаты з самых розных партый і фракцый.

**-- Генадзь Дзмітрыевіч, вось у такой сітуацыі, калі значная колькасць людзей усё ж больш схіляецца да нейкіх рэзкіх рухаў у палітыцы, якімі вы бачыце перспектывы сваёй партыі? Ці знойдзе яна падтрымку ў свядомасці мас, бо без такой падтрымкі любая партыя непазбежна прайграе?**

-- Я не схільны да меркавання, што наш народ не спакойны. Проста так атрымліваецца, што яму не прапануецца іншы шлях, шлях кампрамісаў і грамадскай згоды. Чамусьці людзей пастаянна ставяць ва ўмовы процістаяння: адных сацыяльных груп іншым, адной мовы другой, процістаяння народа ўраду... У апошнім выпадку ўрад Кебіча, каб не абвастраць канфрантацыю з грамадствам, мог бы пайсці на тое, каб замяніць некаторых урадавых чыноўнікаў, і гэтым, хоць часткова, супакоіць незадаволеных. Але ж не, ніякіх "чужых", ніякіх кааліцый. Быццам "чужы" зойдзе і іхнюю ідэалогію расхістае ці ўсё парушыць. Ды не, такую ідэалогію, якая была ў "партыі ўлады" Вячаслава Кебіча, нельга было расхістаць. Проста новы чалавек мог бы ўліць новую кроў, прапанаваць нейкія іншыя падыходы да работы.

**-- Але ж і наш цяперашні прэзідэнт перамог, скажам так, на хвалі пэўнага сацыяльнага радыкалізму...**

-- Ведаеце, мне здаецца, што ён перамог на хвалі народнай незадаволенасці жыццём, на хвалі змывання ўсяго таго, што ўжо павінна было адысці ў нябыт. Людзі выказваліся супраць існуючай улады, як верхняй, так і нізавой. Шмат якія бабкі прыходзілі і галасавалі не столькі за Лукашэнку, колькі супраць сваіх вясковых начальнікаў, якія не выпісалі ім дровы, не далі каня. І гэта зразумела, і я лічу, нават заканамерна. Страта кіруемасці была ў наяўнасці, прычым з верху да нізу. Я магу гэта сцвярджаць на прыкладзе нашай Мінскай вобласці. Так што няма нічога дзіўнага ў, скажам, процістаянні людзей мясцовай уладзе.

**-- Генадзь Дзмітрыевіч, з якога ж моманту ідзе афіцыйны адлік існавання Партыі народнай згоды?**

-- Нам -- два гады.

**-- Вас задавальняе рост партыі, яе развіццё?**

-- Наогул я задаволены, асабліва апошнім перыядам, калі партыя значна пашырылася.

**-- У вас існуе фіксаванае членства?**

-- У партыі зараз прыблізна тры тысячы чалавек. Ёсць рэгіянальныя аддзяленні, раённыя, гарадскія.

**-- Партыя згоды будзе браць удзел у наступных парламенцкіх выбарах?**

-- Так, мы зараз рыхтуем рэгіёны, дзе будзем выстаўляць свае кандыдатуры.

**-- Ці плануеце блакіроўку з іншымі палітычнымі сіламі?**

-- Абавязкова. З кім канкрэтна, сёння цяжка сказаць. Але я лічу, неабходна выступаць адзіным дэмакратычным блокам, каб не процістаўляць фігуры адна адной. Калі якая-небудзь партыя будзе мець у рэгіёне моцнага лідэра, то мы ўжо не будзем умешвацца ў барацьбу. І гэта не змова, гэта проста неабходная тактыка, трэба, каб у новы парламент трапіла добра падрыхтаваная дэмакратычная кааліцыя.

**-- А як ставіцца ваша партыя да сацыяльнай дыферэнцыяцыі грамадства? На каго вы абапіраецеся ў першую чаргу?**

-- Безумоўна, мы арыентуемся на сярэдні клас, інтэлігенцыю. Таму што менавіта сярэдні клас фарміруе агульную псіхалогію грамадства ды і палітыку таксама. Калі сярэдні чалавек будзе жыць у нашым грамадстве нармальна, то, я мяркую, што і грамадства ў цэлым будзе развівацца без нейкіх разбуральных рэвалюцыйных успляскаў.

**-- Але, мне падаецца, калі сёння можна казаць пра сярэдняга чалавека, то пра сярэдні клас на Беларусі -- ці не ранавата? Бо існаванне сярэдняга класа вымагае і пэўнага ўзроўню дабрабыту. А мы пакуль практычна ўсе, прынамсі, значная большасць, аднолькава бедныя, незалежна ад таго, хто ты -- рабочы, селянін, урач ці інжынер...**

-- Ведаеце, я не лічу, што беднасць матэрыяльная абавязкова цягне за сабой беднасць духоўную. У рэшце рэшт большая частка нашага грамадства -- людзі адукаваныя. Яны ўсё разумеюць. І пройдзе яшчэ час, нядоўга, калі мы ўсе прыйдзем да высновы: трэба ствараць.

**-- Вы гаворыце, што жадалі б абапірацца на інтэлігенцыю. Але нярэдка даводзіцца чуць абвінавачванні якраз у адрас інтэлігенцыі: мяккацелая, беспрынцыпная, нават прадажная. Вас гэта не бянтэжыць?**

-- Меркаванні існуюць розныя. Але я з такімі вызначэннямі інтэлігенцыі не згодны.

**-- Генадзь Дзмітрыевіч, вернемся да вашых пазіцый "партыйных". Цікава, якое стаўленне ў Партыі згоды да існуючай нацыянальнай сімволікі?**

-- Пачну з таго, што новая, прынятая сёлета Канстытуцыя Беларусі нас поўнасцю задавальняе. Што тычыцца дзяржаўнасці, то, я казаў, мы цалкам за яе, з усімі атрыбутамі. Вельмі сумна, што на Беларусі дагэтуль фактычна няма дзяржаўнага гімна: выкарыстоўваюць стары, яшчэ савецкі. Што тычыцца дзяржаўнага сцяга, у мяне няма адназначнага меркавання: магчыма, таму, што я ад многіх навукоўцаў чуў, што гістарычны беларускі сцяг быў іншы.

**-- Дарэчы, вы цікавіцеся беларускай гісторыяй?**

-- Так, да беларускай гісторыі я неабыякавы. Чалавеку заўсёды павінна быць цікава: хто ён і адкуль паходзіць.

**-- Генадзь Дзмітрыевіч, вас "рыхтавалі" ў прэм'ер-міністры ў камандзе Шушкевіча, такім чынам ацэньваць дзейнасць урада вы павінны прафесійна. Скажыце, як вам здаецца, ці сапраўды ўрад Вячаслава Кебіча быў эканамічна непісьменны, як неаднойчы даводзілася чуць?**

-- Я так не гаварыў бы. Але тое, што ўрад Кебіча ўрэшце страціў кіраванне, гэта адназначна. Праграм у яго хапала, а вось выканаць іх стары ўрад аказаўся не ў стане.

**-- Чаму ж так здарылася?**

-- Толькі не з прычыны прафесійнай непісьменнасці. Хутчэй ад нізкай выканаўчай дысцыпліны. Людзі не лічылі сваю работу галоўнай каштоўнасцю, махнулі на ўсё рукой.

**-- Калі б вам давялося ўсё ж фарміраваць урад, ці былі б праблемы з падборам сучасных, высокапрафесійных кіраўнічых кадраў?**

-- Канешне. Гэта вельмі вострая праблема. І асноўны націск я скіраваў бы на выканаўчую дысцыпліну. Праграм, і нядрэнных, дастаткова.

**-- Але ж сёння кажуць, што гэта карупцыя з'ела ўсё як іржа.**

-- Мне здаецца, што галоўная прычына не ў карупцыі. Я наогул не схільны вылучаць яе на першы план сярод нашых надзённых праблем. Тым больш, што з карупцыяй пакуль змагаюцца больш на паперы. Між іншым сярод першых, хто загаварыў аб неабходнасці кантрольнай функцыі, была наша парламенцкая камісія. Асабіста я выходзіў з ініцыятывай двух законаў: аб Кантрольнай палаце і аб дзяржаўных служачых. Законы былі прыняты і, спадзяюся, саслужаць добрую службу грамадству.

**-- Ваша партыя аддае прыярытэт у міжнародным супрацоўніцтве Усходу ці Захаду?**

-- Мы лічым, што эканамічныя сувязі з Расіяй, Украінай -- першачарговыя.

**-- І апошняе пытанне. Адзін з нядаўніх вялікіх артыкулаў старшыні Нацбанка Станіслава Багданкевіча меў загаловак -- "Айчына ў небяспецы". Ці падзяляеце вы той узровень трывогі за Беларусь і яе лёс, які выказаў спадар Багданкевіч?**

-- Сітуацыя сапраўды вельмі цяжкая, але я такія "рэвалюцыйныя" лозунгі не ўспрымаю. Трэба было проста ўсім нам, і старшыні Нацбанка таксама, больш працаваць, працаваць, я б сказаў, згодна.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

*ПОГЛЯД БЕЛАРУСАЎ УКРАІНЫ*

# І РАДАСЦЬ, І СМУТАК ПАПАЛАМ...

Мы, беларусы блізкага і далёкага замежжа, пільна сачылі за ходам прэзідэнцкіх выбараў на Бацькаўшчыне. Безумоўна, кожны з нас жадаў поспехаў таму ці іншаму кандыдату ў прэзідэнты краіны. Што тычыцца асабіста мяне, то калі б я жыў у Беларусі, то я аддаў бы свой голас за Зянона Станіслававіча Пазьняка, чалавека інтэлігентнага, разумнага, патрыёта сваёй Радзімы, пад кіраўніцтвам якога, без сумніву, Беларусь стала б сапраўды незалежнай, суверэннай і квітнеючай краінай у даволі кароткі тэрмін. Шкада, што народ Беларусі так і не зразумеў, што ягонае выратаванне з сённяшняга цяжкага становішча было менавіта ў асобе Зянона Станіслававіча...

...Спадзяюся, што спадар Лукашэнка, абраны на пасаду прэзідэнта Беларусі, не пакрыўдзіцца на мяне за маю шчырасць, таму што ён чалавек адкрыты і зразумее іншых людзей, якія прывыклі гаварыць праўду ў вочы. Супраць ягонага выбрання на пасаду прэзідэнта краіны ў мяне гэтаксама нічога няма, як кажуць, у дадзеным выпадку, памагай яму Бог як мага хутчэй навесці ў краіне парадак. Думаю, што сёння сапраўды народу Беларусі патрэбна кансалідацыя ўсіх палітычных плыняў, што дасць магчымасць спадару прэзідэнту скіраваць сваю ўвагу на эканамічныя праблемы краіны...

...Безумоўна, хочацца сказаць некалькі слоў пра пачуцці, якія асабіста ў мяне выклікала інаўгурацыя спадара Лукашэнкі ў Вярхоўным Савеце 20 ліпеня, якую я слухаў па радыёпрыёмніку з Мінска, і якую я мог параўнаць з інаўгурацыяй прэзідэнта Украіны, якая адбылася ў Кіеве надоечы, 19 ліпеня...

І радасць, і смутак папалам, -- так коратка можна было б ахарактарызаваць стан маёй душы, калі трансляцыя была раптоўна абарвана пасля выступу спадара Трусава з заявай... Думаецца мне, што ў гэты святочны, я б сказаў, гістарычны для Беларусі дзень, трансляцыя з Вярхоўнага Савета магла б і павінна была весціся поўнасцю! Безумоўна, а 17-й гадзіне я даведаўся з беларускамоўнай перадачы радыё "Свабода", што ж было далей у зале Вярхоўнага Савета. А было, мякка кажучы,070рознае. Дайшло зноў да нападу на дзяржаўную мову, калі адзін дэпутат, ківаючы на прэзідэнта Украіны Кучму, запатрабаваў надаць расейскай мове статус другой дзяржаўнай мовы краіны. Як кажуць, "чуў звон, ды не ведаў, дзе ён!". Калі ўжо так хочацца ведаць, што ж на самай справе сказаў у сваёй прамове спадар Кучма пасля прыняцця прысягі (дарэчы, у адрозненне ад прэзідэнта Беларусі спадара Лукашэнкі, які сваю прамову казаў па-расейску, спадар Кучма прамаўляў па-ўкраінску!) у адносінах да расейскай мовы, то, калі ласка: дзяржаўнай мовай Украіны застаецца ўкраінская мова, а расейская мова набудзе статус афіцыйнай мовы краіны. Дык навошта ж скажаць словы прэзідэнта Украіны?! А што тычыцца расейскай мовы ў Беларусі, то за ёю замацаваны статус афіцыйнай мовы краіны ў Канстытуцыі. Дык дакуль жа будуць нядобразычліўцы беларускай мовы зноў і зноў ушчыняць лямант вакол яе дзяржаўнасці?!

Чаму ж ніхто не ўсчынае ляманту вакол Дзяржаўнага Гімна?! Дакуль будзе чутны на ўвесь цывілізаваны свет гімн БССР?! Вялі ў прэсе гэтулькі дыскусій, ды так і пакінулі гімн неіснуючай дзяржавы, калі ж, нарэшце, загучыць сапраўды беларускі гімн "Магутны Божа"?!

Вось і пасля прысягі прагучаў у зале гімн БССР, хаця спадар Лукашэнка абраны прэзідэнтам не БССР, а Рэспублікі Беларусь! Так што атрымліваецца нейкі парадокс. Тое ж самае і з паштовымі штэмпелямі на канвертах, якія прыходзяць з Бацькаўшчыны. Мінскія паштавікі "прыдумалі", як са старых бэсэсэраўскіх зрабіць "новыя": аказваецца, усё вельмі проста -- здзерлі надпіс "СССР" угары, а ўсё астатняе пакінулі: "МИНСК, ПЖДП". Вось так! Па-расейску, як быццам бы гэта не сталіца незалежнай і суверэннай дзяржавы, а абласны цэнтр Расіі. Але ж яшчэ, дзякаваць Богу, МІНСК -- сталіца Рэспублікі Беларусь!!! Няўжо ж у сталічных сувязістаў няма гонару за сваю дзяржаву, за сваю сталіцу?! А пра паштовыя штэмпелі з іншых месцаў Беларусі няма чаго і казаць: яны надалей... савецкія! Дык хто ж нарэшце дасць каманду памяняць штэмпелі, дзе б на беларускай мове было напісана БЕЛАРУСЬ і назва паштовага аддзялення сувязі (горад, пасёлак, вёска)? Ці чакалі, што скажа спадар Лукашэнка на сваёй інаўгурацыі?! А сказаў ён, што Беларусь застаецца самастойнай і незалежнай дзяржавай! Таму спадары-сувязісты, хутчэй памяняйце паштовыя штэмпелі, не раздражняйце нас тут у замежжы сваёй абыякавасцю да краіны, у якой маеце гонар жыць і працаваць...

Можна б было яшчэ шмат выказаць нараканняў і па іншых пытаннях, але я абмяжуюся сёння толькі ўжо сказаным.

Хачу ад сябе асабіста і знаёмых беларусаў нашага горада і раёна пажадаць спадару Лукашэнку поспехаў на пасадзе першага прэзідэнта дзяржавы, зычыць яму моцнага здароўя, шчасця. А беларускаму народу набрацца цярпення, бо адразу нічога змяніцца не можа, але паволі павінна ўсё наладзіцца да лепшага. Мы тут, на Украіне, жывём не лепей за вас, паверце на слова, але не губляем надзеі, што спадар Кучма выведзе краіну з эканамічнага крызісу...

ШЧЭ НЭ ВМЭРЛА УКРАЙНА! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Пятрусь КАПЧЫК.**

Ізяслаў, Украіна.

## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# СЛОВА ДА ПРЭЗЫДЭНТА

**Рэдактару "Голасу Радзімы".**
**Паважаны Спадар Рэдактар!**
**Дазвольце мне на балонках Вашае газэты павіншаваць Сп. Аляксандра Лукашэнку ў яго выбарчым дасягненьні стацца першым Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь.**

Вельмі паважаны першы Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь!

Я беларус, пражываючы ў Англіі, якога лёс паўстагоддзя таму назад закінуў за межы роднай Бацькаўшчыны, сваёй мовы і Беларусі ніколі не забываўся, пра яе дбаў і надалей дбаю.

Пра Беларусь і яе шматпакутны народ пашыраю весткі між грамадзян Англіі. Я ніколі не губляў надзеі, што аднойчы Беларусь станецца вольнай і незалежнай дзяржавай, роўнай між роўных дзяржаў сьвету. Тры гады таму назад Беларусь сталася вольнай і незалежнай дзяржавай.

10 ліпеня гэтага году грамадзяне Беларусі выбралі Вас на лідэра беларускага народу. Народ даручыў Вам весьці Беларусь да лепшае будучыні.

Я ўпэўнены, што Вы, паважаны Прэзыдэнт, і Вамі назначаны новы ўрад, апраўдаеце гэтае давер'е. Я веру, што Вы з гонарам будзеце абараняць суверэнітэт Беларусі, яе Канстытуцыю, сымболіку і нашую беларускую мову. На інтэрнацыянальным фоне выкарыстаеце геаграфічнае становішча нашай краіны. Беларусь была і ёсць "акном" з Усходу на Захад і наадварот. Таму не дзіўна, што яна патрэбная нашым суседзям. Я ўпэўнены, што пад Вашым кіраўніцтвам беларускі народ пераможа эканамічныя і палітычныя перашкоды, і Беларусь сваімі дасягненнямі будзе вядома па цэлым сьвеце.

Хай Усемагутны Бог дасьць Вам сілу і розум у Вашай плённай працы.

Жыве Беларусь!

З пашанай
**Сыльвэстар БУДКЕВІЧ.**

Англія.

## З ГІСТОРЫІ БЕЖАНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

# БЕЛАРУСЫ НА АБШАРАХ РАСІІ

Паводле ягонай прамовы, у Калузе за аднолькавую працу бежанцам плацілі 1–2 рублі, а мясцовым жыхарам 6–7 рублёў. Прадстаўнікі Тамбоўскай, Пензенскай, Саратаўскай, Цвярской, Тульскай, Арлоўскай і Казанскай губерняў, падкрэсліваючы неадольныя матэрыяльныя праблемы і варожасць да сябе мясцовых жыхароў, адзінадушна выказваліся на згаданым з'ездзе за вяртанне на Беларусь. У прынятай рэзалюцыі, надрукаванай у N 25 газеты "Дзянніца" ад 14 жніўня 1918 года, пісалася: "Пусть царит там произвол немецкого шуцмана, пусть там хуже, чем здесь, но мы поедем в родные места..."

Напрыканцы 1918 года ў Калугу дзеля правядзення кампаніі рээвакуацыі Белнацком накіраваў свайго эмісара Васілевіча. Восенню – зімою таго ж года каля 13 000 беларускіх уцекачоў выехалі адсюль на бацькаўшчыну. Сярод рээмігрантаў, відаць, апынуліся і сябры юнацкіх гарадскіх аб'яднанняў. Гэтым завяршылася калужская эпапея беларускага бежанскага руху.

### САЮЗ БЕЛАРУСАЎ

**(АРХАНГЕЛЬСК)**

У красавіку 1918 года ў горадзе Архангельску паўстала арганізацыя беларусаў-уцекачоў. Больш за 100 чалавек сталі яе сябрамі. Беларусаў з паўночнага расійскага горада на Белым моры да гуртавання падштурхнулі найперш матэрыяльныя нястачы. Вестак пра якуюкольвек культурна-нацыянальную дзейнасць саюза ў дакументах Белнацкома няма.

Кіравалі аб'яднаннем у розны час Самуіл Максімовіч і М. Багдзевіч. Афіцыйны адрас саюза -- вуліца Свабоды, дом 21. Адзін з старшыняў у лісце ў Белнацком паведамляў, што найгалоўнай задачай саюза з'яўляецца вяртанне беларусаў-уцекачоў Архангельскага рэгіёна ў Беларусь.

На працягу 1918–1920 гадоў у Архангельску некалькі разоў змянялася ўлада. Невядома, як працаваў саюз беларусаў у гэтых умовах і ці адбылася ўрэшце планаваная ім рээвакуацыя.

### БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГУРТОК

**(БАГАРОДЗІЦК)**

17 красавіка 1917 года ў Багародзіцку Тульскае губерні паўстаў, паводле азначэння статута, "гурток свядомых беларусаў з розных губерній". Дакументацыя гуртка вялася па-беларуску, з чаго можна меркаваць, што меў ён сапраўды свядомае нацыянальнае аблічча. Заснавальнікамі былі пераважна вучні эвакуяванай у Багародзіцк Ковенскай сельскагаспадарчай школы. Афіцыйны адрас гуртка -- Дваранская вуліца, 2-гі дом Саломіна.

Прыкладна да лета 1917 года ў Багародзіцкім агранамічным вучылішчы вучыўся будучы вядомы беларускі паэт Уладзімір Жылка. Яшчэ ніхто з даследчыкаў творчасці і біёграфаў паэта не знайшоў вестак аб прыналежнасці Жылкі да гуртка, у прыватнасці, і да беларускай справы ў Багародзіцку -- увогуле. Тым часам цалкам верагодна, што асяродак гуртка мог спрычыніцца да духовага і нацыянальнага фармавання будучага вядомага паэта.

У красавіку 1918 года гурток паінфармаваў Белнацком пра сваё існаванне. У гэтым часе ў складзе яго налічвалася 17 "праўдзівых сяброў" і 20 "блізкіх". Яны ладзілі лекцыі па гісторыі і культуры Беларусі, стварылі дапамаговую касу і бібліятэку, паставілі беларускі спектакль. Старшынёй гуртка быў М. Найбіч, пісарам -- Панасюк. Прозвішчы іншых сяброў гуртка і ягоная далейшая дзейнасць пакуль невядомыя.

Увесну 1918 года ў Туле існавала філія Беларускай Народнай Грамады. Магчыма, што і гурток багародзіцкіх вучняў-беларусаў меў да яе нейкае дачыненне.

### БЕЛАРУСКАЯ РАДА Ў ПСКОВЕ

Адзінай крыніцай інфармацыі пра беларускі рух у Пскове з'яўляецца допіс І.Янучонка (праўдападобна, Янкі Станкевіча) пад назвай "Пскоўская Беларуская Рада", які быў выдрукаваны ў нумары ад 12 лістапада 1918 года ў віленскай газеце "Гоман".

Паводле допісу, увосень 1917 года згуртаванні беларусаўвайскоўцаў у Дзвінску (сучасны Даўгаўпілс) выдавалі газету на беларускай і рускай мовах. Змест газеты быў не надта дасканалы, бо выдавалі яе, паводле І.Янучонка, "сьвядомыя людзі, але новыя ў беларускім руху". Патрапіўшы ў Пскове ў рукі вайскоўца Кузьмы Цярэшчанкі, газета натхніла яго на заснаванне беларускай арганізацыі. На першы сход, які адбываўся на прыватнай кватэры, сабралася 30 чалавек, у асноўным з роты самога К.Цярэшчанкі. Народу ў кватэры было так многа, што ўсім давялося стаяць. Прыйшоў на сход нават камендант Пскова генерал Трыкоўскі, магілёвец. "Гаварыў генэрал па-беларуску і так расчуліўся, што чуць ня плакаў. Пасьля некалькіх прамоў усіх агарнуў гарачы беларускі патрыютызм". На тым жа сходзе пастанавілі сабраць грашовыя ахвяраванні на патрэбы арганізацыі. "Адна дама падарыла свой срэбны радзікюль". Абралі Пскоўскую Беларускую Раду, якая найперш стала "дамагацца ў бальшавіцкай рады ( гарадская ўлада) сабе памяшканьня". Улады, аднак, даўшы памяшканні латышам, палякам, літоўцам, адмовілі беларусам, матывуючы "малым веданнем" Беларускай Рады.

Рада тым часам працавала далей. На другі сход, які адбыўся ўжо ў камерцыйным банку, запрасілі беларусаў з розных кватараваных у горадзе вайсковых часцей, каманд, батарэй, рот і эскадронаў.

Сход быў вялікі. Прысутным прачыталі рэферат па гісторыі Беларусі і дэкламавалі вершы. "Гэта ўнесла беларускі дух". Сход пастанавіў пашырыць склад рады да 24 чалавек. Дарэчы, у допісе згадваецца, што і гэты досыць вялікі склад збіраўся рэгулярна.

Пасланцы рады ездзілі па беларускую літаратуру ў Пецярбург. У тамтэйшых газетах, паводле допісу, з'явілася інфармацыя пра чыннасць пскоўскіх беларусаў-вайскоўцаў. Рада дэлегавала К.Цярэшчанку і А.Судзілоўскага на Беларускі вайсковы з'езд у Віцебск. Наогул, з допісу вынікае, што пытанне арганізацыі беларускага войска надта займала Пскоўскую раду.

Напрыканцы снежня 1917 года рада дэлегавала К.Цярэшчанку, П.Хмялеўскага і Хаценку на Усебеларускі з'езд (кангрэс) у Мінск.

**Юрка ВАСІЛЕЎСКІ.**

**Працяг. Пачатак у № 30, 31.**

## З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

### СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Галоўнае праўленне і аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку ад некалькіх гадоў арганізуюць улетку Свята беларускай культуры. Ператварылася яно ўжо ў найбольш масавую імпрэзу ў мясцовым, найчасцей пустуючым амфітэатры.

У гэтым годзе такое свята адбылося 26 чэрвеня. Асноўнай часткай яго праграмы былі выступленні мясцовых аматарскіх калектываў і запрошанай з Ліды фальклорнай эстрады "Калі ласка". Госці і запачаткавалі аднайменнай песняй амаль чатырохгадзінны канцэрт. Потым старшыня Галоўнага праўлення Янка Сычэўскі афіцыйна адкрыў Свята беларускай культуры,шчыра павітаў першага сакратара пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзіміра Каральчука, консула беластоцкага консульства Ігара Хадасевіча, мясцовых дзеячаў культуры і больш чым тысячную публіку.

Канцэрт прайшоў паспяхова. Выступілі лепшыя калектывы Беласточчыны: хор Гайнаўскага дома культуры, які заняў на апошнім цэнтральным аглядзе БГКТ першае месца; хор, маладзёжная група, дуэты салістаў і невялікія эстрадныя калектывы БГКТ з Беластока ў прыгожых народных уборах, якія атрымалі нядаўна з Упраўлення культуры ў Гродне; вядомыя фальклорныя калектывы з вёсак Гарадок, Чыжы, Дашы, Агароднікі; школьныя балетныя групы наймалодшых з Нарвы і Нараўкі. Разам недзе каля 120 удзельнікаў.

Закончылі канцэрт госці з Ліды, якія былі асабліва шчыра прыняты гледачамі. Захапіла іх жывая музыка на старых інструментах і дасканалыя салісты. Якраз беластоцкаму аматарскаму руху гэтага не хапае.

Вакол амфітэатра дзейнічалі кіёскі, у тым ліку па продажу беларускіх кніжак.

### ВЫБАРЫ Ў САМАЎПРАВЫ

19 чэрвеня гэтага года адбыліся ў Польшчы выбары ў гмінныя самаўправы. У невялікіх гмінах не было падзелу кандыдатаў на партыйныя блокі. Грамадзяне і так ужо змучаныя некалькігадовай палітычнай барацьбой мноства партый і груповак, якіх яны часта не адрозніваюць ні па назве, ні па праграмах дзейнасці. Вельмі нізкі ўдзел у галасаванні сведчыць аб даволі малым зацікаўленні вынікамі выбараў.

Нас цікавяць яны таму, што Беласточчына выказвае заўсёды адметныя тэндэнцыі. Са шматлікіх прэсавых ацэнак тут умацавалася вядомая з папярэдніх выбараў рыса: на ўсходняй Беласточчыне, асабліва ў вясковых гмінах, ізноў перамаглі беларускія, або левыя групоўкі, а на заходняй -- правыя, або каталіцкія.

У гарадах вынікі галасавання з'яўляюцца адбіццём нацыянальнага складу іх насельніцтва. У Бельску блок левых і нацыянальнаменшасныя арганізацыі, якія ў большасці з'яўляюцца саюзнікамі левых, здабылі 18 мандатаў на 28 магчымых, апошніх 10 мандатаў выпала правым і каталіцкім групоўкам. Дагэтуль прапорцыі былі якраз адваротныя. У Гайнаўцы вынікі аналагічныя нават у абсалютных ліках мандатаў, але яшчэ больш раздробленыя правыя групоўкі. У Саколцы невялікі перавес здабылі левыя, а ў Сямяцічах -- правыя і незалежныя. Ва ўсіх упамянутых гарадах ад 10 да 30 працэнтаў папярэдніх радных захавала мандаты.

Больш складаныя вынікі выбараў адзначаны ў Беластоку. У выбарах прымала ўдзел 11 выбарчых блокаў, у тым ліку "Беластоцкая самаўрадавая кааліцыя -- "Левіца", да якой далучылася ГП БГКТ, "Выбарчы камітэт праваслаўных" і іншыя. Пераможцам аказаўся блок "Еднасць", які аб'яднаў усе правыя і каталіцкія групоўкі. Здабыў ён 26 мандатаў на 50 магчымых. Другое месца занялі левыя – 10 мандатаў, а іншыя ўсяго па некалькі, сярод якіх праваслаўныя -- 3. Беластоцкае асяроддзе зноў пацвердзіла вынікі выбараў па веравызнаўчаму, а можа нават нацыянальнаму прынцыпу. Каталіцкі касцёл зрабіў усё магчымае, каб выйграць выбары, а праваслаўная царква не выказала адпаведнага заангажавання. Слабым агітатарам аказалася ў горадзе таксама БГКТ.

Зараз ва ўсіх гмінах праходзяць выбары на кіруючыя пасады. Штучна створаныя блокі пачынаюць распадацца. Як сфармуецца рэгіянальная палітычная сцэна і яе рэпрэзентацыя – улада, пакажа будучыня.

### КУПАЛЛЕ Ў БЕЛАВЕЖЫ

9 ліпеня гэтага года ў Белавежы адбылося беларускае Купалле. Яго арганізатарамі былі Галоўнае праўленне БГКТ, войт гміны ў Белавежы і Гайнаўскі дом культуры. Было гэта ўжо дзесятае такога тыпу свята ў гісторыі беларускай культуры на Беласточчыне. На Купальскую ноч прыбыло 18 мясцовых беларускіх аматарскіх калектываў і 4 з суседняй Брэстчыны. Разам адных толькі ўдзельнікаў аматарскага руху налічвалася звыш 300 асоб.

На Купалле прыехалі таксама госці, у тым ліку намеснік міністра культуры і мастацтва Польшчы Міхал Ягела, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, надзвычайны і паўнамоцны пасол Беларусі ў Польшчы Георгій Таразевіч, генеральны консул Беларусі ў Беластоку Ігар Хадасевіч, генеральны сакратар Таварыства "Польшча – Беларусь" Баляслаў Хмяліньскі, прадстаўнікі мясцовай прэсы, радыё і тэлебачання, у тым ліку аператар японскага тэлебачання. Асаблівую зацікаўленасць усімі падрабязнасцямі народнага свята з групы апошніх гасцей выказаў японец, які засняў увесь сцэнарый белавежскага Купалля.

На Купалле прыбыло каля 6 тысяч жыхароў з суседніх вёсак, Гайнаўкі, Беластока, многіх ваяводстваў нашай краіны і гасцей з-за мяжы. Белавежа хіба яшчэ ніколі не бачыла такога вялікага натоўпу людзей, аўтамашын, аўтакараў, веласіпедыстаў, але і аматарскіх калектываў, усе ўдзельнікі якіх былі ў нацыянальнай вопратцы.

Купальскае свята адкрыў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Канцэрт запачаткавалі ўсе ўдзельнікі аматарскіх калектываў песняй "Купалінка". Працягваўся ён каля 3,5 гадзіны. Вялі яго сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч і дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушка. Прысутныя накіраваліся з песнямі на мясцовую рэчку Нараўку, па якой пускалі вянкі. Дзесяткі іх, сплеценых з рознакаляровых кветак, упрыгожаных запаленымі свечкамі, склалі ў начной цемры цудоўнае відовішча.

Моладзь усю ноч танцавала. Удзельнікі аматарскіх калектываў, госці і старэйшыя ўдзельнікі Купалля паехалі ў Старую Белавежу, аддеглую ўсяго ў 6 кіламетрах, на падрыхтаванае вогнішча. У размовах, песнях, танцах яны таксама правялі ўсю ноч.

Паводле сабраных старшынёю ГП водгукаў аб белавежскім Купаллі, яго ўдзельнікі выказаліся вельмі станоўча і прасілі арганізаваць у будучыні. На жаль, не хапае ахвярных спонсараў. Міністэрства культуры і мастацтва фінансавых сродкаў на сёлетняе Купалле не дало. Беларускаму таварыству і гміннай самаўправе ў Белавежы робіцца яно не па сіле.

Якая будучыня чакае нашае Купалле, прадбачыць цяжка. Разам з радасцямі застаецца сум. Няўжо ўсе мерапрыемствы, якія выклікаюць сярод насельніцтва такія зацікаўленні, у хуткай будучыні знікнуць ад недахопу невялікіх грошай?

**Уладзімір ЮЗВЮК.**

Польшча.

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

113

**НАСТАЎНІЦКІЯ СЕМІНАРЫІ.** Куды больш сур'ёзным выпрабаваннем для беларускасці вясковай моладзі былі настаўніцкія семінарыі, якія рыхтавалі настаўнікаў для пачатковых школ. Першая настаўніцкая семінарыя адкрылася ў Маладзечне ў 1864 годзе. Яна стала першай і ў Расіі. Потым такія ж установы з'явіліся ў Нясвіжы Мінскай губерні, Свіслачы Гродзенскай і ў Полацку. Сялян вельмі спакушала магчымасць атрымаць адукацыю на казённы кошт, таму што яны бачылі, "як дрэнна жыць на свеце цёмным людзям". І ўся вясковая таленавітая моладзь валам валіла ў семінарыі. На ўступных экзаменах конкурс даходзіў да 10 чалавек на адно месца.

Семінарысты мелі казарменны рэжым. Ім забаранялася ўжываць беларускую мову. Усё беларускае высмейвалася, звязвалася з непісьменнасцю. Вучні з вёсак пачыналі саромецца сваёй нацыянальнай адметнасці, імкнуліся пазбавіцца яе і стаць рускім чалавекам. А некаторыя выпускнікі нават з пагардай ставіліся да сваіх бацькоў, якія размаўлялі на мужыцкай мове, і прыставалі да той інтэлігенцыі і ўраднікаў, што панаехалі з Расіі. Семінарыі рыхтавалі русіфікатараў мясцовага паходжання. Але і гэтая хвароба дэнацыяналізацыі ў многіх потым праходзіла. Настаўніцкая інтэлігенцыя працавала ў беларускім культурным асяроддзі. З яе шэрагаў выйшлі этнограф і пісьменнік Адам Багдановіч, наш песняр Якуб Колас.

114

**РУСІФІКАТАРСКАЯ РОЛЯ ГАРАДОЎ.** Найбольшых поспехаў русіфікатары дабіліся ў гарадах, дзе канцэнтравалася расійская бюракратыя і інтэлігенцыя, мелася шмат рускіх школ. З 80-х гадоў там пачалі адкрывацца гарадскія вучылішчы, дзе-нідзе – жаночыя гімназіі. У канцы XIX стагоддзя ў гарадах з'явіліся рускія публічныя бібліятэкі, яны поўніліся рускімі кнігамі, часопісамі, газетамі. У новае стагоддзе гарадскія цэнтры ўваходзілі цалкам зрусіфікаванымі. Руская мова стала лічыцца "гарадской" і абавязковай для гараджан. Гарады самі ператвараліся ў лабараторыі русіфікацыі беларускага і яўрэйскага насельніцтва.

## 14.3. Ваяўнічасць вышэйшага праваслаўнага кліру. Вынікі.

**НАСТУП НА КАТОЛІКАЎ.** Пасля паўстання 1863 года рэпрэсіі пасыпаліся і на каталіцкую царкву. М.Мураўёў закрыў 30 кляштараў, якія падтрымлівалі паўстанцаў. Католікі абмяжоўваліся ў правах на адукацыю і прадпрымальніцтва. Рэпрэсіі вялі да абвастрэння рэлігійнай барацьбы. Каталіцкая царква тайна адкрывала польскія школы, перацягвала да сябе беларускіх сялян з былых уніятаў. Такое назіралася ў шмат якіх месцах Міншчыны і Гродзеншчыны. Аднак з уступленнем на царскі пасад Аляксандра III улады пачалі гвалтам перапісваць католікаў з былых уніятаў у правас-

115

лаўе, а касцёлы перарабляць у цэрквы. Вернікі ўпарта супраціўляліся, не дазвалялі рушыць касцёлы. Такія дзеянні разглядаліся ўладамі ўжо як вераадступніцтва. Заводзіліся судовыя справы. Але і гэта не дапамагала.

**"УПОРСТВУЮЩИЕ В КАТОЛИЦИЗМЕ".** У некаторых парафіях прыхільнікі каталіцызму дамаўляліся з панамі, каб тыя фармальна запісвалі ў метрычных кнігах праваслаўнай царквы радзіны, хрэсьбіны, шлюбы, хаўтуры, а самі тайна хадзілі да ксяндза. Зразумела, што прыходзілася плаціць і папу, і ксяндзу, а, калі трэба, то і ўрадніку. Іншыя сяляне, сілай прыпісаныя да царквы, увогуле адмаўляліся ад усялякіх праваслаўных абрадаў. У шэрагу вёсак поўдня Мінскай губерні дзеці "фіктыўных" праваслаўных заставаліся нехрышчонымі, шлюбы – нявенчанымі, набожныя – не адпетымі ў адпаведнасці з законамі праваслаўнай рэлігіі. А гэта давала падставу ўладам лічыць дзяцей, якія нараджаліся ў не венчаных у царкве сем'ях байстрюкамі і праследаваць пахаванні без выканання хрысціянскіх абрадаў. Фактычна вялася неаб'яўленая рэлігійная вайна з самаўладдзем духоўна згвалтаваных беларусаў. Ва ўрадавых колах іх называлі "упорствующими в католицизме".

**УМАЦАВАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ РЭЛІГІІ.** Руская праваслаўная царква пасля паўстання 1863 года яшчэ больш умацавала сваё становішча на беларускіх землях. Яна стала асноўным інструментам русіфікацыі краю. Тут разгарнулася небывалае царкоўнае будаўніцтва, якое вялося за кошт пабораў з мясцовых паноў і не-

116

каторых ахвяраванняў царскага двара ды расійскіх патрыётаў. Будаўнічымі работамі кіраваў спецыяльны ўраднік, рускі вучоны П.Бацюшкаў. За дзесяць гадоў яго дзейнасці на Беларусі і Літве было пабудавана каля 1 700 праваслаўных храмаў. Іх яшчэ называлі "мураўёўкамі". Усе яны былі вытрыманы ў рускім стылі, мелі цыбулепадобныя галоўкі. Праваслаўныя русіфікатары пачалі гуртавацца ў брацтвы. Ужо ў 60-х гадах іх колькасць дасягала 200.

**ЗАХОДНЕРУСІЗМ.** Вынікам русіфікацыі Беларусі было ўзнікненне цэлага сацыяльнага пласта мясцовага грамадства, які стаў апорай рускага панавання ў краі. Гэта ўраднікі, настаўнікі, праваслаўнае духавенства. Яны не мелі капіталаў, жылі на ўрадавым хлебе і зайздросцілі спаланізаваным панам. Эканамічная залежнасць ад рускай дзяржавы і варожасць да ўсяго польскага аб'ядноўвалі іх у адзіным імкненні шчыльней прытуліцца да Расіі. У поўным зліцці з рускай дзяржавай яны бачылі адзіны шлях да дабрабыту і духоўнасці свайго краю. Дзеля гэтага аб'яднання сябры рускіх гатовы былі адмовіцца і ад бацькоўскай мовы, і ад гістарычнай ды культурнай спадчыны свайго народа. А ўвогуле лічылася, што Беларусь – гэта не што іншае, як Заходняя Расія. Такая ідэалогія атрымала ў тыя часы назву – "заходнерусізм", галоўным тэарэтыкам якога выступаў М. Каяловіч, прафесар гісторыі Пецярбургскай духоўнай акадэміі, ураджэнец Беларусі.

117

**ПОСПЕХІ І ЦЯЖКАСЦІ РУСІФІКАТАРАЎ.** Вядома, што і ў другой палове XIX стагоддзя яны не маглі быць арыгінальнымі ў сваіх дзеяннях. Ім прыйшлося толькі вярнуцца да тых мер, што ўжо прымяліся пасля паўстання 1831 года. Аднак на гэты раз царскія рэпрэсіі мелі для нас больш трагічныя вынікі.

Распачатая пасля 1863 года палітыка русіфікацыі перарэзала натуральны працэс беларускага нацыянальнага станаўлення. І хоць царызм усе ўдары скіроўваў супраць польскасці на беларускіх землях, яна ўцалела. Затое была загублена кволая беларускасць, якая прымалася за польскасць. Носьбітамі польскай культурнай традыцыі тут былі шляхціцы. Яны і збераглі гэтыя традыцыі, гуртуючыся ў сельскагаспадарчыя і крэдытныя таварыствы, свецкія салоны. У канцы XIX стагоддзя шырокую вядомасць набыў асветны гуртох у Вільні Алаізы Ажэшкі, вядомай польскай пісьменніцы родам з Гродзеншчыны. У беларускай культуры таких магутных абаронцаў не было. Яго першым парасткам русіфікатары не далі ўзрасці. Цэнтрамі культурнага жыцця станавіліся гарады. Але беларускай культуры ў гарадскіх цэнтрах, што раслі працай беларусаў, не знаходзілася месца. Гарады Беларусі дзяліліся на тры культурныя асяродкі, побач з рускім захоўваліся польскі і яўрэйскі.

Такім чынам, у другой палове XIX стагоддзя над Беларуссю павісла атрутная атмасфера русіфікацыі, якая так жорстка і так нахабна прыніжала чалавечую годнасць нашага народа. Тыя выгады, што меліся ад далучэння да рускай

118

культуры, даваліся дужа дарагой цаной – калецтвам этнічнай самасвядомасці і сіндромам непаўнацэннасці. Нацыянальна апантаныя рускія людзі імкнуліся пераканаць нашых продкаў, расійскую і сусветную грамадскасць, што Беларусь была "істінно" рускім краем, яе народ – галінай рускай нацыі, а беларуская мова – "наречием" рускай мовы. Але русіфікатары не змаглі парушыць этнічнакультурную адметнасць беларускай вёскі. Беларуская ідэя сілкавалася гуманізмам вялікіх рускіх пісьменнікаў Ф.Дастаеўскага, Л.Талстога, А.Астроўскага, творчасць якіх была своеасаблівым пратэстам супраць усялякага гвалту, у тым ліку і нацыянальнага ўціску.

З 80-х гадоў абудзіўся і польскі нацыяналізм з яго прэтэнзіямі на землі былой Рэчы Паспалітай і паланізатарскімі намерамі. Але ўзнаўленне на Беларусі руска-польскага нацыянальнага саперніцтва толькі папярэднічала не менш жорсткай барацьбе прамысловых капіталаў двух суседніх народаў за панаванне на нашых землях.

## 17. БЕЛАРУСКАСЦЬ У ВЫПРАБАВАННІ НА ТРЫВАЛАСЦЬ

Пакутныя часы нацыянальнага ўціску насталі для беларускага народа пасля паўстання 1863 года. У выніку татальнай русіфікацыі ён губляў

119

свае нацыянальныя каштоўнасці, якія замяняліся чужынскімі. Першыя ўсходы нацыянальна свядомай інтэлігенцыі былі вынішчаны. Ва ўмовах эканамічнага дыктату з вялікімі цяжкасцямі прабівалі сабе дарогу нацыянальныя прадпрымальнікі. Беларускі народ, яго этнічную і культурную адметнасць не было каму бараніць. І здавалася, што поўная асіміляцыя ці нацыянальная смерць беларусаў будзе лагічным вынікам іх паднявольнага жыцця. На шчасце, такога не здарылася. Чаму?

## 17.1. Нечаканыя вынікі русіфікацыі

**КУЛЬТУРНАЯ ПЕРААРЫЕНТАЦЫЯ З ЗАХАДУ НА ЎСХОД.** Культурная прастора Беларусі ў эпоху "мураўёўшчыны" істотна змянілася. Навукова-мастацкая творчасць беларусаў стала магчымай толькі ў рускамоўнай форме. Царызм закрываў Беларускі край ад польска-еўрапейскіх уплываў і гвалтам насаджаў тут расійска-візантыйскія культурныя традыцыі. Польскамоўная духоўная творчасць адкідвалася на аматарскі ўзровень. Беларускі друк фактычна забараняўся. У краі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы. Усё гэта прыгнятала і абядняла культурныя працэсы на Беларусі. Яны не былі ўжо такімі вірлівымі, як у 20–50 гады.

120

**ПАЛІТЫЧНЫ ЗАКАЗ НАВУКОЎЦАМ.** Царскі ўрад адразу ж пасля задушэння паўстання 1863 года мабілізаваў афіцыйную навуку для пошуку доказаў таго, што Беларусь спрадвеку з'яўлялася рускім краем. Рабілася гэта насуперак польскім дамаганням на беларускія землі. У 1867 годзе ў Вільні адкрыўся аддзел Рускага геаграфічнага таварыства, які і распачаў ажыццяўляць дзяржаўную праграму. Праводзіліся археалагічныя экспедыцыі, збіраліся старадаўнія рэчы і старадрукі. Вывучэннем Прыдняпроўя займаўся нават магілёўскі губернатар Дэмбавецкі. Аднак у 1874 годзе віленскі аддзел закрыўся, бо рускія людзі ставіліся пераважна абыякава да нашай мінуўшчыны, а мясцовых працаўнікоў амаль што не было.

**УЗНАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ.** Новыя ўсходы беларускай інтэлігенцыі падымаліся, але цяжка. Да асветы імкнуліся прадстаўнікі мясцовага сялянства, мяшчанства, збяднелай шляхты. Вялікіх намаганняў каштавала ім прайсці праз жорсткі адбор у духоўныя і настаўніцкія семінарыі, а асабліва ў гімназіі. Папячыцель Віленскай навучальнай акругі Сергіеўскі не любіў людзей з народа і нават асцерагаўся беларусаў. Цяжка было без сродкаў прабівацца сабе дарогу і ва універсітэцкіх гарадах. Аднак цяжкасці пераадольваліся, і беларускі народ зноў набываў сваю інтэлігенцыю. Расійская адукацыя і выхаванне не заўсёды прыводзілі беларусаў да забыцця сваіх нацыянальных каранёў.



# ВІЦЕБСК, ЛЕТА 1994-га,

## або СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ МЕСЦІЧА З НАГОДЫ ПЕРШАГА МІЖНАРОДНАГА ШАГАЛАЎСКАГА ПЛЕНЭРУ

### "ДЗЯКУЙ, МІСТЭР СВЯТЧАРНІК!"

Да нашага часу захаваўся цікавы гістарычны дакумент -- пералік лекцый, якія слухаў у Віцебску з верасня 1920 па красавік 1921 года Іван Салерцінскі, будучы выбітны музыказнаўца, прафесар Ленінградскай кансерваторыі і мастацкі кіраўнік філармоніі, а пакуль што 18-гадовы юнак, сціплы служачы пададдзела мастацтваў губернскага аддзела народнай адукацыі. Сярод шэрагу іншых І.Салерцінскі называе лекцыі Міхаіла Бахціна "Маральны момант у культуры", "Філасофія Ніцшэ", "Маральная ідэя Талстога", "Сімвалізм у новай рускай літаратуры"; лекцыі Льва Пумпянскага "Філасофскі роздум аб архітэктуры", "Філасофія музыкі", "Філасофія антычнасці", "Вопыт пабудовы сістэмы маральнасці"; лекцыі Паўла Мядзведзева па рускай літаратуры XX стагоддзя і інш. Калі ўзровень тагачасных віцебскіх музыкантаў (нядаўніх вулічных маэстра) выклікаў часам паблажлівую ўсмешку, то ўзровень лекцый, прачытаных у Віцебску прызнанымі навукоўцамі, адпавядаў самым высокім патрабаванням.

Святкаванне Шагалаўскіх дзён у Віцебску ў тры папярэднія гады спарадзіла добрую традыцыю: наладжванне навуковых Шагалаўскіх чытанняў, падчас якіх перад шырокай аўдыторыяй выступалі вядомыя мастацтвазнаўцы і гісторыкі, паэты і мастакі. Пачынаючы са студзеня 1991 года, на Шагалаўскіх чытаннях у Віцебску прагучалі бліскучыя даклады мастацтвазнаўцаў Марыны Бяссонавай (Масква) "Выбар унутры традыцыі (экзістэнцыяльная прырода шагалаўскага экуменізму)", Аляксандра Каменскага (Масква) "Паэтыка Марка Шагала. 1910 -- 1914", Аляксандры Шацкіх (Масква) "Благаславёны будзь, мой Віцебск", Крыстофа Гольдмана (Германія) "Тэма ўкрыжавання ў творчасці М.Шагала", натхнёныя паэтычныя радкі Рыгора Барадуліна і Давіда Сімановіча, апантанага пачынальніка і паслядоўнага змагара за Шагала ў Віцебску. Два разы ў чытаннях чынны ўдзел браў таксама народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў.

Да добрага прызвычайваешся хутка, таму пэўнае здзіўленне ў віцяблян і гасцей горада выклікала рашэнне арганізатараў не праводзіць чарговых чытанняў падчас Першага Шагалаўскага пленэру. Чаму, калі ў горадзе сабралася столькі мастакоў і знаўцаў мастацтва? Аднак для ўсіх гэтае пытанне так і засталося загадкай. Магчымыя наступствы такой непрадуманай і непаслядоўнай акцыі прадухіліў няўрымслівы сп. Сімановіч: Чацвёртыя Шагалаўскія чытанні ўсё ж адбыліся, але... у тэлевізійным варыянце. Рэдакцыяй літаратурна-драматычных праграм абласной тэлевізіі былі спецыяльна падрыхтаваны 6 перадач, якія падчас пленэру змаглі пабачыць тысячы гледачоў.

Хоць Шагалаўскія тэлечытанні часткова і знялі праблему, тым не менш, маючы ў горадзе вялікі наплыў творчай інтэлігенцыі, віцебскі месціч рызыкаваў так і застацца "духовной жаждою томим". Аднак, на ягонае шчасце, адзін з удзельнікаў пленэру --мастак са Злучаных Штатаў Амерыкі Уільям Святчарнік -- выказаў жаданне прачытаць публічныя лекцыі з аглядам амерыканскага мастацтва за апошнія два з паловай стагоддзі. Лекцыі былі наладжаны для студэнтаў мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута і вучняў дзіцячай мастацкай школы N 1. Чыталіся яны ў перапоўненых аўдыторыях пры наяўнасці атмасферы відавочнага ўзаемнага зацікаўлення. Дзякуй, містэр Святчарнік!

### "ЧАСЦІНКА МАЙГО СЭРЦА ЗАСТАЕЦЦА Ў ВІЦЕБСКУ"

Кульмінацыяй свята мастацтва ў Віцебску сталася адкрыццё выніковай выставы ўдзельнікаў Першага міжнароднага Шагалаўскага пленэру. Можна было чакаць, што да гэтай падзеі горад, як ужо некалі ў 1920-я гады, паўсюдна расквеціцца выявамі зялёных коз, кароў і коней, "надзьмутых рэвалюцый", або чародамі каляровых папугаяў, ад аднаго позірка на якія "ў людзей слабанервных пачыналася галавакружэнне". Нічога такога гэтым летам у Віцебску не адбылося. Затое лагодным адвячоркам 4 ліпеня ля старой ратушы разгарнулася сапраўднае тэатральнае дзейства, чыннікамі якога сталіся мастакі, месцічы, сам горад. Урачыстасць адкрыцця выніковай выставы была ператворана ў маленькі вулічны спектакль, у якім сілачы выжымалі гіры, акрабаты круцілі сальта, ружовыя любоўнікі застывалі ў пяшчотных абдымках, а задуменныя жывёлы -- козы, коні і нават куры -- вольна пахаджвалі па зялёным лапіку сквера ў самым цэнтры горада. Ультрамарынавыя гарадскія прыцемкі праразала святло пражэктараў, гучала яўрэйская музыка, працаваў імправізаваны "шынок" пачатку стагоддзя, і над усім гэтым панавала безліч скрыпачоў у фраках. Са скрыпкамі ў руках яны ўзляталі над пругкасцю батутаў, балансавалі на дроце, сядзелі на даху ратушы, з'яўляліся ў яе расчыненых насцеж і асветленых знутры вокнах. На сцяну над уваходам у будыніну праецыраваліся вялікія слайды з выявамі прац Шагала -- старой ратушы на гэты раз давялося выконваць складаную ролю сцэны, сімвала і жывой дэкарацыі адначасова. Калі ўспыхнулі петарды і ў свой шлях да зорак накіравалася гронка паветраных шароў з букетам валошак і партрэтам Майстра, сотні месцічаў панеслі свае зацікаўленыя позіркі ў залы выставы, дзе, крыху ўсхваляванае ад доўгачаканай сустрэчы, іх вітала Мастацтва.

Пасля заканчэння пленэру па адной сваёй працы мастакі павінны былі пакінуць у Віцебску. "У горадзе будзе створаны музей сучаснага мастацтва", -- сказаў яшчэ на пачатку імпрэзы Уладзімір Рылатка, намеснік міністра культуры і друку Беларусі. Ідэя стварэння такога музея ў Віцебску аднойчы ўжо была ўвасоблена. Зрабіў гэта ў 1920-я гады Марк Шагал. У зборах створанага ім пры Віцебскім мастацка-практычным інстытуце музея знаходзіліся палотны самога М.Шагала, К.Малевіча, В.Кандзінскага, П.Канчалоўскага, Н. Ганчаровай, Н.Альтмана, М.Ларыёнава, Р.Фалька, К.Каровіна і іншых мастакоў. На жаль, пасля ад'езду Шагала з Віцебска збор гэты ў горадзе не ўдалося захаваць надоўга. І вось зараз -- цалкам рэальная магчымасць аднавіць колішнюю бліскучую шагалаўскую ідэю.

40 адметных прац для будучага музея сучаснага мастацтва Віцебск прыдбаў за адно лета. У апошні дзень свята да іх далучылася яшчэ адно ахвяраванне -- літаграфія Міхаіла Шэмякіна, дасланая вядомым мастаком у знак прывітання гораду і ўдзельнікам Першага Шагалаўскага пленэру. Праўда, сама ідэя стварэння ў Віцебску музея сучаснага мастацтва яшчэ вельмі далёкая ад практычнай рэалізацыі. На жаль, ні Міністэрства культуры рэспублікі, ні віцебскія гарадскія ўлады не маюць пакуль што на гэты конт ні пэўных канкрэтных прапрацовак, ні доўгатэрміновай праграмы.

Першы міжнародны Шагалаўскі пленэр у Віцебску стаў з'явай, што была заўважана ў свеце. Імпрэзу віталі прэзідэнт ЗША Біл Клінтан, міністр культуры Францыі Жак Тубон, міністр культуры Расійскай Федэрацыі сп. Сідараў, супрацоўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў дзяржаў Ізраіля, Францыі, Германіі, Італіі, Латвіі, Польшчы на Беларусі, кіраўнікі шматлікіх грамадскіх арганізацый з розных краін свету, знакамітыя дзеячы культуры. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый уключыла пленэр у лік мерапрыемстваў, прысвечаных сваймy 50-годдзю.

Канечне, удзел у такім пленэры -- адметная падзея ў творчай біяграфіі кожнага мастака. І тое ўзрушэнне, што нараджалася ў душах, яны выказвалі па-рознаму. На святах звычайна прынята рабіць падарункі. Мастакі з Беларусі пачалі падносіць іх першымі. Віктар Шылко ахвяраваў сваю працу Юрыю Башмету, Уладзімір Вальноў -- Марку Блёзу, Май Данцыг -- Білу Клінтану. Іна Энціна з Масквы падаравала свой цудоўны афорт "Ахвярапрынашэнне Аўраама" музею-сядзібе мастака Ільі Рэпіна. Люба Жухавічар (Масква) і Юры Какаянін (ЗША) пакінулі некалькі сваіх прац у дар маладому Віцебскаму мастацкаму музею -- знак увагі, падтрымкі і надзеі на належную будучыню.

Адгаманіў Першы Шагалаўскі пленэр. Мастакі пакідалі горад з сумнымі вачыма. Свае ўражанні і пачуцці яны выкажуць пазней моваю колераў і ліній. Аднак адна з іх -- мастачка з Германіі Карла Восніца -- зрабіла гэта загадзя, паклікаўшы сабе на дапамогу яшчэ і слова. Таму на заканчэнне -- яе 14-ты "Ліст з Віцебска", развітальны: "Часцінка майго сэрца застаецца ў Віцебску. Але ці дапаможа гэта рэстаўраваць старыя прыгожыя дамы?

Ці магло б гэта стаць прычынай для стварэння музея сучаснага мастацтва?

Ці магло б гэта даць жанчынам Віцебска мужнасці для ўласных дасягненняў?

Сэрца неразумнае, але яно -- крыніца ведаў і ўпэўненасці".

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**Заканчэнне..
Пачатак у №№ 30, 31.**



**НА ЗДЫМКУ: скрыпач на даху віцебскай ратушы падчас адкрыцця выніковай выставы пленэру.**

**Фота Уладзіміра БАЗАНА.**

## ХРОНІКА МАБ

### НА НАРАДЗЕ Ў ЛЮБЛІНЕ

У Любліне адбылася нарада дырэктараў шэрагу навуковых і навукова-асветных установаў Цэнтральнай і Цэнтральна-Усходняй Еўропы, якія аб'ядналіся ў асацыяцыю. Ад Беларусі ў дыскусіі прыняў удзел дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны прэзідэнт МАБ А.Мальдзіс. На нарадзе разглядалася пытанне аб распрацоўцы агульнай праблематыкі, у тым ліку стварэнні культуралагічнага атласа краін Цэнтральнай і Цэнтральна-Усходняй Еўропы. У лік сяброў новага аб'яднання вучоных былі прыняты славакі.

У тым жа Любліне адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 425-годдзю Люблінскай уніі. Аб дадатных і адмоўных баках гэтага гістарычнага акта, аб яго наступствах і сённяшніх інтэграцыйных і дэзінтэграцыйных працэсах ад Беларусі гаварылі сябры МАБ М.Біч, Г.Галенчанка, П.Лойка, А.Мальдзіс, З.Шыбека і іншыя. Удзельнікі канферэнцыі агледзелі музейную экспазіцыю ў Люблінскім замку, дзе ёсць нямала экспанатаў, генетычна і тыпалагічна звязаных з Беларуссю.

### ПРАБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ

Міжнародны камітэт беларусістаў згадзіўся аказваць усялякую падтрымку (найперш інфармацыяй сярод зарубежных вучоных) у правядзенні навукова-практычнай канферэнцыі "Нацыянальная школа: гісторыя, сучаснасць, перспектывы", якая адбудзецца 3-4 красавіка наступнага года ў Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце.

Да канферэнцыі мяркуецца выдаць зборнік адпаведных матэрыялаў (тэзісаў). Скіроўваць іх трэба да 3 кастрычніка 1994 г. на адрас: **224665, г.Брэст, бульвар Касманаўтаў, 21 -- на імя С.Яцкевіча.** Тэксты павінны быць аб'ёмам не больш чатырох старонак машынапісу і, зразумела, на беларускай мове. Да тэзісаў трэба дадаць звесткі пра аўтара.

**Алеся БЕЛАВУСАВА, рэферэнт МАБ.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# ДА 50-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

Пошта рэспублікі добра падрыхтавалася да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Была створана серыя марак, цікавых тым, што яны -- сумесны выпуск Беларусі, Украіны і Расіі. Пошта кожнай дзяржавы выдала маркі з аднолькавымі сюжэтамі, і толькі кошт і назва дзяржавы адрозніваюць мініяцюры. Выпуск цікавы яшчэ і тым, што

РАГАЧОЎ ВУЗЕЛ СУВЯЗІ 50 ГАДОЎ З ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ РАГАЧОВА АД ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ 24.02.94. ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

маркі выдадзены адным блокам з купонам. На купоне на трох мовах -- беларускай, украінскай і рускай пададзены тэкст: "Вынікам ваенных дзеянняў у 1944 годзе з'явілася поўнае вызваленне ад нямецка-фашысцкіх акупантаў тэрыторыі Расіі, Украіны і Беларусі. Са святам Перамогі. Вялікая Айчынная вайна, 1941--1945 гг." На кожнай з марак надпіс: "50-годдзе вызвалення тэрыторыі Беларусі" ці "...Украіны", ці "...Расіі" і паказана карта баявой аперацыі па вызваленню данай тэрыторыі і дакументальны здымак тых ваенных год. На паштовым знаку, прысвечаным вызваленню Беларусі, план аперацыі "Баграціён". На марцы таксама адлюстраваны помнік на Кургане Славы і дакументальны ваенны здымак.

Да юбілею выдадзена два канверты -- адзін з іх канверт "Першага дня" ў афармленні мастака Р. Кіча з малюнкамі Кургана Славы і юбілейным тэкстам (гэты канверт выдадзены абмежаваным тыражом), другі -- са стандартнай маркай "Пагоня" і адлюстраваннем таго ж Кургана Славы і юбілейным тэкстам. Да юбілею быў таксама зроблены спецыяльны штэмпель для гашэння карэспандэнцыі. Сотні пісем у юбілейных канвертах, з наклеенымі на іх новымі маркамі, пагашанымі спецыяльным штэмпелем былі пасланы 3 ліпеня філатэлістамі сваім сябрам у розныя краіны свету.

У канцы мінулага і ў гэтым годзе многія гарады і вобласці нашай рэспублікі адзначалі і будуць адзначаць 50-годдзе свайго вызвалення. У адным з красавіцкіх нумароў "Голасу Радзімы" (N 14) я ўжо расказваў пра першую паштовую картачку беларускай пошты. Яна была прымеркавана да 50-годдзя вызвалення Гомеля, тады ж у горадзе над Сожам праводзілася юбілейнае гашэнне. У лютым сёлета адзначыў сваё вызваленне Рагачоў. Вузел сувязі гэтага горада зрабіў у дзень юбілею спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі памятным штэмпелем з тэкстам: "Рэспубліка Беларусь. Гомельская вобласць. Рагачоў. Вузел сувязі. 50 гадоў з дня вызвалення Рагачова ад фашысцкіх захопнікаў. 24.02.94".

У гэтым годзе пошта рэспублікі выпусціла яшчэ дзве паштовыя картачкі. Адна з іх выдадзена па заказу магілёўскіх філатэлістаў і прысвечана 50-годдзю вызвалення вобласці і горада Магілёва ад фашысцкіх захопнікаў. На малюнку картачкі -- старажытны герб, атрыманы горадам у чэрвені 1661 года, букет гваздзікоў і архітэктурныя помнікі горада. На марцы картачкі -- ордэн Айчыннай вайны і адзін з помнікаў горада. У канцы чэрвеня на паштамце Магілёва было праведзена спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі памятным штэмпелем з надпісам "Рэспубліка Беларусь. 50 год з дня вызвалення горада. Магілёў. Паштамт. 28.06.1994 г." У цэнтры малюнка штэмпеля адлюстраванне абеліска, устаноўленага на магіле Героя Савецкага Саюза, камандзіра стралковай дывізіі генерал-маёра Лазарэнкі, які загінуў пры вызваленні горада.

На другой паштовай картачцы надпіс: "50 год. 1944. Вызваленне Віцебшчыны" і сілуэт помніка вызваліцелям, устаноўлены на плошчы Перамогі ў Віцебску. На арыгінальнай марцы гэтай картачкі, упрыгожанай невялікім арнаментам, паказаны шэдэўры архітэктуры старажытнага Віцебска.

Філатэлісты нашай рэспублікі паклалі ў свае калекцыі адразу некалькі марак, паштовых картачак і канвертаў, прысвечаных адной тэме -- 50-годдзю вызвалення Беларусі. Трэба адзначыць, што першы спецыяльны штэмпель, прысвечаны вызваленню Мінска, быў прыменены ў 1959 годзе, калі адзначалася 15-я гадавіна гэтай падзеі.

**Леў КОЛАСАЎ.**








# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ПАД БЕЛЫМ СЦЯГАМ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Археалагічны матэрыял старажытнай Беларусі дае магчымасць праз семантычныя знакі, выявы пазнаёміцца з вытокамі нацыянальнай сімволікі, карані якой сягаюць у паганства. Выява крыжа, напрыклад, з'явілася задоўга да прыняцця хрысціянства, і крыж атаясамліваўся з зямлёй, конь быў сімвалам Сонца, белы конь -- белага, светлага дня.

На выставе ў музеі – прыгожыя габелены Вольгі Дзёмкінай з выявай народных абрадаў: "Гуканне вясны", "Дажынкі".

Цікава даведацца, што кожны са знакаў вышыўкі на кашулях, паясах, ручніках (яны таксама прадстаўлены на выставе), нясе канкрэтную сэнсавую нагрузку. Круг, кола азначае сонца, гэты знак атаясамліваецца з уяўленнем аб свеце наогул, трохкутнік – знак агню, здольны прадухіляць няшчасці.

Для тых, хто лічыць, быццам вобраз герба "Пагоня" ўзяты са столі, на выставе вытрымка з Гусцінскага летапісу, дзе пра герб "Пагоня" паведамляецца, што ён з'яўляўся дзяржаўным сімвалам Вялікага Княства Літоўскага. Ёсць на выставе і манеты Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай з выявай "Пагоні".

Арганізатары выставы маляўніча і доказна паказалі шлях скасавання дзяржаўнай сімволікі беларусаў пасля далучэння іх зямель да Расіі ў канцы XVIII стагоддзя. Расійскія ўлады надалі беларускім гарадам новыя гербы (дагэтуль большасць беларускіх паселішчаў, карыстаючыся Магдэбургскім правам, мелі ўласныя гербы). Новыя гербы былі пазбаўлены беларускіх традыцыйных сімвалаў. Гэта -- крок да вынішчэння нацыянальнай самасвядомасці. Ён, як мы бачым, аказаўся даволі ўдалым. Беларусы пазней прынялі яшчэ адзін новы сцяг -- чырвоны, новы герб -- з сярпом і молатам. Шмат дзесяцігоддзяў яны не адчувалі, што чужая сімволіка – абраза для нацыі. Упершыню за савецкі час публічна (пра гэта сведчаць звесткі і фотаздымкі на выставе) бел-чырвона-белы сцяг быў разгорнуты 30 кастрычніка 1988 года, калі беларуская грамадскасць адзначала Дзяды, дзень ушанавання памяці продкаў. Шэсце ў той дзень, як вядома, было разагнана міліцыяй.

Сёння той гнаны і ганьбаваны сцяг – нацыянальны сцяг рэспублікі Беларусь. Аднак на праспекце Францыска Скарыны да Дня незалежнасці 27 ліпеня вывесілі жоўтыя, бэзавыя, паасобку белыя і чырвоныя сцяжкі. Узнікае думка: выстава, якая адкрылася так дарэчы да Дня незалежнасці дасць магчымасць беларусам адчуць сябе нацыяй ці ніяк на іх не паўплывае? А сімвалам Беларусі ў свядомасці людзей застанецца чырвоны ці белы сцяг. У сувязі з гэтым з'яўляецца адно пытанне: мы святкавалі Дзень незалежнасці ці здавалі сваю дзяржаву ў палон пад белым сцягам, як некалі здалі пад чырвоным?

**Алена СПАСЮК.**

*СПОРТ*

## УВАЙШЛІ Ў ДЗЕСЯТКУ

На Гульнях добрай волі папоўніўся запас узнагарод беларускай каманды. Нягледзячы на тое, што ні чэмпіён свету Іван Іванкоў, ні алімпійскі чэмпіён Віталь Шчэрба не змаглі выступіць у Санкт-Пецярбургу, зборная гімнастаў нашай рэспублікі заваявала агульнакаманднае "серабро".

У мастацкай гімнастыцы асабліва ўдала выступіла Вольга Гонтар. На радзіму яна прывезла пяць медалёў: сярэбраныя -- за практыкаванні з мячом, стужкай і абручом, бронзавыя – за мнагабор'е і практыкаванні з булавамі.

Зборная Беларусі ў агульнакамандным заліку займае пакуль восьмае месца.

## БЕЗ ПЕРАМЕН

Падыходзяць да канца чвэрцьфінальныя матчы прэтэндэнтаў у барацьбе за шахматную карону. Пакуль ні ў адной пары няма пэўнай яснасці: лік, і ў сустрэчы мінчаніна Барыса Гельфанда з расіянінам Уладзімірам Крамнікам, нічыйны. Магчыма прэтэндэнтам спатрэбяцца прадугледжаныя рэгламентам спаборніцтваў дадатковыя партыі.



**На Заслаўскім вадасховішчы пад Мінскам (на здымку) праходзілі міжнародныя спаборніцтвы па парусным спорту -- "Мікра-эка-рэгата" -- афіцыйны этап кубка Еўропы. У іх прымалі ўдзел каманды з блізкага і далёкага замежжа, у тым ліку з Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, Францыі.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1146. Падпісана да друку 8. 8.1994 г.